www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 82 (3823)

18 кастрычніка 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ДАСЛОЎНА

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

*— Свая незалежная дзяржава дае нам свабоду — тое, да чаго па прыродзе сваёй імкнецца кожны чалавек і кожная нацыя, свабоду жыць на сваёй зямлі, якую падараваў Бог, свабоду самім выбіраць свой шлях, свабоду шанаваць свае традыцыі, сваё мінулае, распараджацца сваім сённяшнім днём, будаваць сваю будучыню.*

***(Падчас учарашняга выступлення перад студэнтамі і выкладчыкамі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.Куляшова.)***



НАПЯРЭДАДНІ

## Дзяды. Курапаты

*Пададзена заяўка на правядзенне ў Мінску шэсця і мітынгу на "Дзяды".*

Яе падалі ў Мінскі гарадскі і абласны выканкамы прадстаўнікі Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ.

Традыцыйную акцыю мяркуецца правесці ў Курапатах у нядзелю, 3 лістапада.

Нагадаем, ва ўрочышчы Курапаты пад Мінскам у сталінскія часы адбываліся масавыя расстрэлы мірных грамадзян. Там пахаваны дзясяткі тысяч ахвяр рэпрэсій. У дзень памінання продкаў у Курапатах штогод праводзіцца мітынг.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

### Павел СЕВЯРЫНЕЦ:

# «У Купліне саспела маё каханне...»

Заўтра, 19 кастрычніка, спіс палітвязняў паменее на аднаго чалавека. 32-гадовы Павел Севярынец нарэшце адбыў чарговае пакаранне.

Першы раз у спецкамендатуры Севярынец апынуўся пасля вулічных акцый пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў рэферэндуму-2004. Тады па абвінавачванні ў арганізацыі тых самых пратэстаў ён атрымаў год і 9 месяцаў абмежавання волі, а грамадскасць даведалася пра вёску Малае Сітна Полацкага раёна на самым усходзе Беларусі, дзе знаходзілася тая "хімія". Праўда, тады Павел Севярынец выйшаў на волю раней пазначанага тэрміну, а вось гэтым разам пакаранне давялося адбыць ад званка да званка.

Схапілі Паўла ўначы з 19 на 20 снежня пасля таго, як людзі разышліся пасля Плошчы. Сам ён заўважыў, што яго "вялі" некалькі чалавек яшчэ з плошчы Незалежнасці. Далей усё, як звычайна ў такіх выпадках.

*"Мяне схапілі, збілі з ног, зацягнулі ў машыну, ну і... Потым суд і новая "хімія"*, — спакойна кажа Павел. Ніколі апазіцыянер не падаваў ніякіх прашэнняў аб памілаванні. Вынікам першай "хіміі" стала кніжка "Лісты з лесу", якую ў 2007 годзе прызналі лепшай кнігай года. Дарэчы, за прэзентацыю яе Севярынец чатыры разы пабываў у ізалятарах Брэстчыны — у Брэсце, Баранавічах і Івацэвічах. Кажа, што калі на "хімію" трапіў у Пружанскі раён, то вырашыў, што так яму наканавана лёсам. І ўжо не сакрэт, што вынікам другой "хіміі" стане кніга "Беларуская глыбіня". Аднак не літаратура зараз стане галоўным заняткам Паўла Севярынца. Ён падзяліўся сваімі планамі з "Народнай Воляй":

*— Я па-ранейшаму з'яўляюся сустаршынёй аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя". Згодна з заканадаўствам, да мяне не могуць ужыць такую меру, як нагляд, таму жыць па месцы прапіскі — у Віцебску — мяне не прымусяць. А значыць, буду і далей сумяшчаць грамадскую і палітычную дзейнасць. Жыць збіраюся ў Мінску. Канешне, з развіццём інтэрнэту быць у палітыцы можна, нават знаходзячыся ў самай маленькай вёсцы, але тут ёсць толькі адна праблема — адсутнасць асабістых кантактаў. У Мінску гэта, натуральна, рабіць лягчэй.*

***— Пасля апошніх прэзідэнцкіх выбараў сітуацыя ў краіне змянілася: беспрэцэдэнтная колькасць палітвязняў, ад'езд часткі актывістаў за мяжу, жорсткае падаўленне любых спроб вулічных пратэстаў. Як у такой сітуацыі можа дзейнічаць апазіцыйны лідар?***

*— Трэба мэтанакіравана рыхтаваць сілу, якая створыць маральную платформу для перамен. У сённяшняй сістэме, заснаванай на страху, крадзяжах і хлусні, калі тыя тысячы чыноўнікаў не могуць паўнавартасна выконваць функцыю дзяржавы, апазіцыя павінна быць адзінай. Мы павінны змагацца "за". За маральнасць, за незалежнасць. Наша спаборніцтва з уладай павінна быць перш за ўсё ў маральнай плоскасці. Трэба стварыць супольнасць з дастатковай колькасцю маральных людзей, арганізаваць сумленных прафесіяналаў, каб яны змаглі замяніць сённяшняе карумпаванае чынавенства. Гэта будзе першачарговай задачай.*

***— Вядома, які кантынгент знаходзіцца на той "хіміі". А ці ёсць прыкметы таго, што нешта змянілася і ў тым асяроддзі, натуральна, не заангажаваных у палітыку людзей? Ці змянілася іх стаўленне да тых жа палітыкаў?***

*— Самае прыкметнае тое, што ў іх знік давер да ўлад. Пералом здарыўся пасля дэвальвацыі 2011 года. Палітыкай яны не цікавяцца, але на маёй першай "хіміі" сустракаліся людзі, якія маглі сказаць, што кіраўніцтва робіць усё правільна. Гэтым разам такога і блізка не было.*

***— Ёсць адчуванне, што за час адсідкі крыху адстаў ад палітычнага жыцця?***

*— Здаецца, не. Да мяне ж увесь час прыязджалі людзі. Я ж не быў у поўнай ізаляцыі — ёсць інтэрнэт, газеты. "Хімія" — гэта не турма. Дый лістоў я шмат атрымліваў. Калі падсумаваць, то ў сярэднім атрымаецца амаль тры лісты на дзень.*

***— Для маладога чалавека дзве адсідкі — гэта ўжо занадта. А як жа з асабістым жыццём? Можа, у хуткім часе нас чакае навіна пра шлюб Паўла Севярынца з нейкай асобай?***

*— У Купліне саспела маё каханне. Не буду нічога казаць больш пра гэта, бо я чалавек трыдцыцыйных поглядаў і лічу, што трэба ўсё рабіць па-людску. Спачатку я мушу паразмаўляць з бацькамі дзяўчыны і толькі потым нешта скажу. Справа асабістая і далікатная. Але я шчаслівы ад таго, што адчуваю. Відаць, трэба было трапіць на тую "хімію", каб знайсці сваё каханне.*

У суботу 19 кастрычніка сустракаць Паўла Севярынца з'едуцца яго сябры і сваякі. З Купліна ўсе накіруюцца ў Мінск. Павел спадзяецца, што паспее на ўрачыстыя мерапрыемствы, прысвечаныя 25-годдзю БНФ, і такім чынам адразу апынецца ў самым цэнтры палітычнага бамонду. А мы віншуем яго з вызваленнем і зычым поспехаў і здароўя!

**Любоў ЛУНЁВА.**



ВІЗІТ

## У Мінск прыляціць прэзідэнт Эквадора

Рафаэль Карэа наведае Беларусь 31 кастрычніка. Пра гэта паведаміла крыніца ў адміністрацыі прэзідэнта Эквадора.

У Мінску ён будзе ў нейкім сэнсе праездам. Рафаэль Карэа ў канцы кастрычніка наведае таксама Расію і Францыю, піша "Эквадор сёння".

28 кастрычніка Рафаэль Карэа прыляціць у Санкт-Пецярбург. У Мінск ён прыбудзе 31 кастрычніка.

Нагадаем, што Аляксандр Лукашэнка наведаў Эквадор у чэрвені 2012 года. Візіт прэзідэнта Эквадора — гэта візіт у адказ.

ЗНАКОМЬТЕСЬ!

## Кристиан Хольм возглавил рабочую группу ПА ОБСЕ по Беларуси

Депутат шведского парламента пообещал продолжить работать для демократических перемен в нашей стране.

Об этом Кристиан Хольм написал в своем аккаунте в социальной сети "Фейсбук".

*"Я рад своему назначению на пост главы рабочей группы Парламентской ассамблеи ОБСЕ. Теперь мы продолжим работу для свободной, демократической и открытой Беларуси"*, — сообщил он.

Кристиан Хольм является депутатом парламента Швеции от партии Moderaterna. Ранее он неоднократно выступал в поддержку белорусских демократических активистов.

Кристиан Хольм сменил на посту докладчика по Беларуси немецкого депутата Уту Цапф.

НАДВОР'Е

## Подых зімы

*У гэтыя выхадныя сіноптыкі абяцаюць пагаршэнне надвор'я.*

Чакаецца пахаладанне, паўночны вецер, дажджы і мокры снег. Пра гэта паведаміў начальнік службы метэапрагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Дзмітрый Рабаў.**

Па яго словах, у бліжэйшую суботу ноччу на большай частцы тэрыторыі краіны, днём у крайніх усходніх раёнах чакаюцца кароткачасовыя дажджы, ноччу і раніцай месцамі з мокрым снегам.

Акрамя таго, ноччу ў многіх раёнах, днём па ўсходзе будзе адзначацца ўзмацненне ветру парывамі да 15—18 м/с. Тэмпература ўначы ў межах 1—6 градусаў цяпла, па паўночным захадзе — замаразкі ад 0 да -4, удзень — ад +4 у паўночных да +10 у паўднёвых рэгіёнах.

У нядзелю ноччу будзе пераважна без ападкаў, днём на большай частцы тэрыторыі пройдуць кароткачасовыя дажджы, па паўночным усходзе — з мокрым снегам. Ноччу і раніцай месцамі туман.

Тэмпература ноччу 1—6 градусаў цяпла, па паўднёва-ўсходняй частцы краіны — замаразкі да мінус 4. Максімальная тэмпература днём — ад +3 па паўночным усходзе да +12 па Брэсцкай вобласці.

Тэмпература паветра ўначы ў Мінску на выхадных складзе ад 1 да 3 градусаў цяпла, днём +5...+7, магчымы кароткачасовыя дажджы.

КОМПЕТЕНТНО



## Не туда пошли

Девальвация национальной валюты — явное свидетельство того, что страна испытывает серьезные экономические проблемы. Можно приостановить девальвацию или передвинуть на более поздний период, но избежать ее в Беларуси не удастся, считает экс-премьер-министр Беларуси Михаил Чигирь. По его мнению, решить проблему в корне может лишь смена экономической политики.

— На протяжении последних лет состояние белорусской экономики таково, что девальвация национальной валюты стала неизбежностью, — говорит Михаил Чигирь. — Она будет происходить, если не будут предприняты какие-то конкретные меры. Прежде всего по наращиванию экспорта и сокращению импорта. Пока идет сдерживание девальвации. И здесь много факторов, которые приостанавливают этот процесс: у нас растет внешний долг, идет колоссальная финансовая помощь со стороны России. Серьезным сдерживающим фактором может быть крупная приватизация и продажа госсобственности инвесторам извне. Поэтому сегодня звучат заявления о продаже "Горизонта", Мозырского НПЗ и т.п. Если это произойдет, девальвацию удастся передвинуть на более поздний срок. Однако это не решает проблемы в корне.

**— Насколько реальны при нынешних подходах наращивание экспорта и сокращение импорта?**

— Для этого мы должны открыться для инвестора, прежде всего западного. Если будут серьезные инвестиции, естественно, можно наращивать экспорт. Но таких инвестиций у нас, к сожалению, в ближайшее время не предвидится. Поэтому в плане наращивания экспорта можно рассчитывать только на собственный потенциал. Но и здесь мы пассивничаем.

Много говорилось о программе импортозамещения, но она не срабатывает. К примеру, мы как импортировали десятилетиями чеснок из Китая, так и импортируем. Хотя делается все очень просто: подпишите договоры, заинтересуйте людей. У нас что, земли нет? Есть. У нас чеснок не произрастает? Произрастает. Но власти даже самого элементарного решить не могут. Пойдите на рынок стройматериалов. Там стройматериалов из Польши гораздо больше, чем наших. А ведь у нас энергоносители, нефть, газ дешевле. Тогда почему Польша подавляет наши строительные материалы на нашем рынке?

**— Каким вам видится выход из этой ситуации?**

— Надо пересматривать экономическую политику, на первый план выдвигать актуальные экономические проблемы, открыться для инвесторов. Надо держать свое слово всегда. У нас же были шикарные инвесторы: "Филипс", который обещал сохранить завод по производству телевизионных трубок в Гомеле, "Форд" начинал работать. Надо было создавать благоприятные условия, поддерживать, интересоваться их проблемами. В результате они ушли. Теперь привлечь такого уровня инвесторов очень сложно, потому что есть серьезное недоверие к нашей стране.

**Анна КРАСУЛИНА.**

ПРАТЭСТ

## Юрый Швец не здаецца...

Як вядома, старшыня пярвічнай арганізацыі Беларускага свабоднага прафсаюза Мазырскага НПЗ Юрый Швец распачаў галадоўку 14 кастрычніка, паведаміўшы, што пратэстуе супраць звальнення адразу пяці сяброў незалежнага прафсаюза: мужа і жонкі Генадзя і Таццяны Баброўнікаў, Уладзіміра Ключнікава, Аляксея Ермака і Івана Шабана. Трымаць галадоўку Швец планаваў тры дні на працоўным месцы, а калі рэакцыі паўнамоцных структур не будзе — то і бестэрмінова. У той жа дзень да акцыі далучыўся намеснік Юрыя Васіль Альхоўскі. На ноч яны пераходзілі ў аўтамабіль, прыпаркаваны каля завода.

Падтрымаць галадоўшчыкаў у Мазыр прыязджалі актывісты Беларускага незалежнага прафсаюза з Салігорска, але іх не пусцілі нават у будынак адміністрацыі. Кіраўніцтва прадпрыемства таксама адмовілася ад сустрэчы з лідарам Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандрам Ярашуком і лідарам Беларускага незалежнага прафсаюза Мікалаем Зіміным. Адным словам, адказныя асобы сталі ў глухую абарону.

А вось у канцэрне "Белнафтахім" на пратэст адрэагавалі. Там папрасілі час на вывучэнне матэрыялаў і паабяцалі пасля гэтага сустрэцца з кіраўніцтвам незалежных прафсаюзаў.

*"Я галадоўку абвяшчаў на тры дні, але з-за пазіцыі адміністрацыі прадпрыемства вырашыў працягнуць яе да суботы,* — гаворыць Юрый Швец. — *А вось свайго намесніка ўгаварыў спыніць акцыю, бо ў яго і так пасля прабадной язвы выдалілі дзве трэці страўніка. Да таго ж у яго зараз яшчэ і нага зламана. Хопіць з яго. Але калі перамовы з кіраўніцтвам "Белнафтахіма" не дадуць ніякіх станоўчых вынікаў, то я распачну бестэрміновую галадоўку",* — запэўніў "Народную Волю" Юрый Швец.

Нагадаем, што сітуацыя з дыскрымінацыяй сяброў незалежнага прафсаюза на прадпрыемствах не новая. Летась былі звольнены актывісты БНП на "Граніце" ў Мікашэвічах, сёлета — пазбаўлены прэмій работнікі Бабруйскага завода трактарных дэталяў і агрэгатаў. На БМЗ сітуацыя абвастрылася пасля таго, як на працу сюды прыйшоў былы кіраўнік мясцовага КДБ.

**Даратэя СОЛТАН.**

СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

# БНФ — 25!

## Пачатак

Прайшло 25 год з таго памятнага дня 30 кастрычніка 1988 года. У гісторыю Беларусі ён увойдзе як "Дзень разгону мітынгу на Маскоўскіх могілках", які можна лічыць пачаткам адліку новага часу ў жыцці нашага народа, часу, звязанага з развалам Савецкага Саюза, крушэннем савецкай сацыялістычнай сістэмы, камуністычных ідэалаў і ўтварэння незалежнай беларускай дзяржавы.

У той дзень упершыню за шмат гадоў сталінскага страху, брэжнеўскай стагнацыі і андропаўскай бязглуздай дысцыпліны тысячы мінчан, хто пехатой, хто на перакладных (бо не дзейнічала метро), з самай раніцы рухаліся да Маскоўскіх могілак, што ў мікрараёне "Усход", каб адзначыць памінанне продкаў — "Дзяды".

Быў там і аўтар гэтых радкоў. Усё тое, што пачалося спачатку на Маскоўскіх могілках, а потым спантанна перарасло ў мітынг у Курапатах, неаднаразова апісвалася ў самых розных варыянтах. Гэта быў сапраўды гістарычны дзень, магчыма, больш значны для нашай найноўшай гісторыі, чым знакамітыя Віскулі, дзе падпісваўся вядомы акт аб спыненні дзейнасці СССР. Для шматкаго гэты дзень — пачатак адліку зусім новай, невядомай дагэтуль свядомасці, новага статусу ў грамадстве ды і новага статусу самога грамадства. З таго часу і на многія гады пачаўся грамадскі падзел, стратыфікацыя беларускага грамадства паводле аднаго галоўнага крытэрыю — стаўлення да Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Многія людзі тады рабіліся прыхільнікамі альбо сябрамі БНФ і звязвалі сваё далейшае жыццё з ім ці блізкай да БНФ арганізацыяй альбо партыяй. Іншыя не прымалі і не прынялі ідэалаў, абвешчаных БНФ, і станавіліся па другі бок "барыкад".

Мой асабісты шлях у новую гісторыю, у так званыя "дэмакратыю і незалежнасць", пачаўся, праўда, трохі раней — яшчэ з 1970-х — 1980-х гадоў мінулага стагоддзя. Трэба адзначыць, што ў адрозненне ад многіх будучых дзеячаў і простых удзельнікаў наступных акцый БНФ і наогул нацыянальна-дэмакратычнага руху я прыйшоў да тых падзей ужо дастаткова "падкаваным", бо быў знаёмы і з беларускай гісторыяй, і з культурай, і з народнай спадчынай, размаўляў па-беларуску і па магчымасці ўдзельнічаў у акцыях за адраджэнне беларускай культуры. Напрыклад, быў у шэрагу падпісантаў ліста-звароту да Вярхоўнага Савета СССР і ЦК КПСС у абарону беларускай мовы, здаецца, у 1986-м ці 1987 годзе. Добра памятаецца, як мяне разам са шматлікімі знаёмымі і незнаёмымі людзьмі — "падпісантамі" выклікалі ў галоўны будынак камуністаў, што месціўся на вуліцы Карла Маркса (цяпер рэзідэнцыя прэзідэнта), у ЦК КПБ, і цэлы дзень вялі размову, якая нічога не дала і не магла даць у тыя махровыя савецкія часы. Дарэчы, размова была на самым высокім узроўні з удзелам Першага сакратара ЦК КПБ Яфрэма Сакалова і старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, будучага сацыял-дэмакрата, цяпер ужо нябожчыка Г.С.Таразевіча.

Гісторыя БНФ пачалася трохі раней згаданых падзей на "Дзяды". Такой датай можна лічыць 19 кастрычніка 1988 года, калі ў Доме кіно адбыўся ўстаноўчы сход таварыства памяці ахвяр сталінізму "Мартыралог Беларусі" і там жа быў утвораны аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Я, праўда, там не прысутнічаў, бо мой шлях навукоўца-фізіка тады не перасякнуўся яшчэ з асноўным касцяком будучага БНФ — Васілём Быкавым, Зянонам Пазьняком, Міхасём Ткачовым і іншымі.

Ужо літаральна праз пару дзён аргкамітэт БНФ распачаў у Доме літаратара (вул.Фрунзе, 5) рэгістрацыю суполак БНФ, якія пачалі імкліва ўтварацца пасля натуральнага палітычнага каталізатара — падзей 30 кастрычніка.

Ідэяй далучыцца да працы аргкамітэта БНФ загарэўся і я.

У тыя часы я працаваў навуковым супрацоўнікам БДУ. І вось у мяне ўзнікла ідэя стварыць суполку БНФ ва ўніверсітэце. Але не так проста было гэта зрабіць — страх, вядома, быў вялікі, бо трэба было агучыць сваю ідэю прама на працоўным месцы. Тады ўсе ўсяго вельмі баяліся — жывыя яшчэ былі ўспаміны пра жудасці сталінскіх рэпрэсій.

Мы з маім сябрам Віктарам Навуменкам зрабілі арыгінальны ход — суполка была створана сярод удзельнікаў Народнага хору народнай песні выкладчыкаў і супрацоўнікаў БДУ, дзе мы абодва ў вольны ад працы час спявалі ў групе басоў-барытонаў.

Было гэта так.

*(Заканчэнне на 3-й стар.)*

ПРОГНОЗ

## Халявы не будет

*У Беларуси осталось 4—5 лет, чтобы подготовиться к мировым ценам на энергоносители.*

Об этом заявил первый вице-премьер Владимир Семашко в ходе пленарного заседания Белорусского энергетического и экологического конгресса, передает БелаПАН.

*"Мы еще 4—5 лет имеем временной лаг впереди, чтобы прийти к мировым ценам"*, — сказал он, обратив внимание, что в настоящее время Беларусь как страна — участница Таможенного союза получает энергоресурсы по ценам, которые существенно ниже европейских.

*"При мировой цене 800 долларов за тонну нефти мы платим 380—385 долларов, когда импортируем нефть. Понятно, что так продолжаться долго не будет"*, — подчеркнул Владимир Семашко.

К СВЕДЕНИЮ

## БЖД решила проблему с вывозом людей из «Минск-Арены»

Для обеспечения вывоза зрителей 19, 22 и 24 октября с комплекса "Минск-Арена" назначается электропоезд сообщением "Масюковщина — Минск-Северный".

Стоянка электропоезда на станции Масюковщина (1-я платформа, 3-й путь) продлится с 22.00 до 22.20. На Минск-Северный он прибудет в 22.24. Стоимость проезда составит 700 рублей.

Билеты можно будет приобрести за десять суток до отправления электропоезда в железнодорожных кассах на всех станциях и остановочных пунктах в пределах Минска и окрестностей, сообщили в Минском отделении Белорусской железной дороги. На "Минск-Арене" 19 октября состоится концерт группы "Scorpions", 22 октября — Филиппа Киркорова. Что за мероприятие должно пройти 24 октября, на сайте спорткомплекса не сообщается. Напомним, после выступления в "Минск-Арене" Cirque Du Soleil и группы Depeche Mode многие зрители возмущались отсутствием дополнительных автобусов от "Минск-Арены".

Народная Воля
http://www.nv-online.info
18 КАСТРЫЧНІКА 2013 г.

СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

# БНФ — 25!

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Калі я пераканаўся, што суполку БНФ на працы не створыш, то пачаў думаць: "Як жа ўсё ж такі ўліцца ў БНФ, як з ім стаць бліжэй?" Роздум і Божы промысел скіравалі мой розум паглядзець больш уважліва на калектыў пад назвай "Народны хор народнай песні" (НХНП). Штуршком была сустрэча нашага хору з капэлай Днепрапятроўскага ўніверсітэта, дзе было шмат размоў пра *новае,* пра дэмакратыю і народныя франты.

Жаночая частка хору — сапрана і альты — у штыкі прынялі мае заклікі аб уступленні ў БНФ. Аднак больш разважлівыя і свабодалюбівыя мужыкі, асабліва з галасоў ніжэйшага рэгістру, прыхільна паставіліся да гэтай незвычайнай па тым часе прапановы. Магчыма, гэтаму паспрыялі рэгулярныя рэпетыцыі хору ды частыя паездкі з канцэртамі па неабсяжнай тэрыторыі СССР.

На "устаноўчы сход" — так жартаўліва я называю тую нешматлікую групу харыстаў, што прынялі маю прапанову стварыць суполку БНФ, — сабралася 7 чалавек. Ну, калі гаварыць шчыра, ніхто не сабіраўся, а проста падчас рэпетыцыі амаль усе "басы" і "барытоны" падпісалі бланкі заяў у БНФ. Астатняе было справай тэхнікі, якой у мяне, па праўдзе, тады яшчэ не было. Тое "астатняе" ўяўляла толькі адну паперчыну — пратакол аб стварэнні "Пярвічнай арганізацыі БНФ НХНП БДУ", а гэта праблем не стварала — недзе ў студзені 1988 года мы афармілі ўсе неабходныя дакументы.

Рэгістравалі суполкі БНФ тады ў Доме літаратара. Вёў рэгістрацыю паэт, тагачасны сакратар Саюза пісьменнікаў Алесь Емяльянаў. Емяльянаў занёс нашы дадзеныя ў тоўсты журнал, то бок паставіў на ўлік. Адгэтуль мы сталі структурай БНФ і, як пазней высветлілася, першай суполкай у галоўным універсітэце Беларусі. Пазней будзе створана суполка БНФ усяго ўніверсітэта і яшчэ трохі пазней — арганізацыя БНФ Маскоўскага раёна, у якую тэрытарыяльна ўваходзіў універсітэт.

Пасля прыняцця закона аб грамадскіх арганізацыях усе арганізацыі, што ствараліся ў працоўных калектывах, былі скасаваныя. Быў уведзены прынцып выключна тэрытарыяльнай структуры БНФ і іншых грамадскіх арганізацый.

Аднак пэўны час суполка БНФ хору ўніверсітэта была юрыдычнай структурай БНФ, і на мой адрас як старшыні гэтай суполкі высылалі розныя бягучыя матэрыялы па дзейнасці БНФ, сярод якіх — вось яны, трапяткія, чароўныя моманты, — атрыманне фронтаўскай газеты "Навіны БНФ".

Потым была створана суполка ўжо Маскоўскага раёна, да якога тэрытарыяльна адносіўся ўніверсітэт, пачалося цікавае, напоўненае да краёў яскравымі падзеямі жыццё. Гэта быў час, як выказаўся б Леў Гумілёў, пасіянарнага ўздыму, рэзкага росту нацыянальнай свядомасці беларусаў і ідэалаў дэмакратыі.

Апафеозам гэтага цунамі пасіянарнасці стаў Устаноўчы з'езд БНФ, які адбыўся ў старажытнай беларускай сталіцы — Вільні, якая ў 1989 годзе была ўжо не беларускім горадам, а літоўскім, з'яўлялася сталіцай Літоўскай ССР і насіла назву, чамусьці прынятую і ў нас, — Вільнюс. Але нас там прынялі лепей, чым у сваёй сталіцы — Мінску.

## *На з'езд!*

Устаноўчы з'езд БНФ быў прызначаны на 24—25 чэрвеня 1989 года. Я быў вылучаны дэлегатам ад Маскоўскага раёна. Акрамя мяне былі вылучаны таксама актывісты БДУ Косця Лапко, Віктар Навуменка, Сяргей Міхноў і, можа, яшчэ хто — не памятаю.

Недзе тыдні за два да эпахальнай падзеі — з'езда — я сустрэў Генадзя Тумаша (тады ён быў важкай фігурай у БНФ), і ён мне сказаў, што я, як арганізатар першых фронтаўскіх суполак (найперш суполкі НХНП, а потым і агульнаўніверсітэцкай), маю права вылучыцца дэлегатам ад аргкамітэта БНФ, і гэта дасць пэўныя перавагі перад звычайнымі дэлегатамі (першыя месцы ў зале пасяджэнняў, лепшыя месцы для харчавання ў абед і на заключнай вячэры і г.д.).

Так я і зрабіў.

Беларускія пракамуністычныя ўлады, як вядома, не дазволілі правесці першы з'езд БНФ у Мінску. А вось літоўцы гасцінна запрасілі беларусаў, вылучылі нам вельмі прыстойную залу для правядзення з'езда (ці не ў будынку літоўскіх прафсаюзаў?).

У той час межаў паміж рэспублікамі не было, Савецкі Саюз хоць і трашчаў па швах, але яшчэ існаваў, а ягоны лідар — Першы сакратар ЦК КПСС Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў — не пакідаў надзеі перабудаваць СССР і яшчэ больш замацаваць Саюз. Ён так і застаўся такім рамантыкам перабудовы да сённяшняга часу, і гэта зразумела: надта радыкальны план змены ўсёй структуры і жыцця савецкай сістэмы быў ім прапанаваны. Цяпер цяжка ўявіць, што значыцца рашыцца на такую глабальную перабудову застылага грамадства ў "эпоху застою", альбо ў "часы стагнацыі".

Я гэта прыгадваю вось чаму: дзякуючы гарбачоўскай адлізе, надта хуткаму працэсу ператварэння рэспублік СССР у незалежныя дзяржавы, мяжы паміж Літвой і Беларуссю яшчэ не было. Квіток да Вільнюса на цягнік каштаваў 3 рублі 20 капеек. Працягласць паездкі — каля трох гадзін.

Але цягніком не давялося ехаць. Мікола Цмыг — адзін з будучых арганізатараў Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі — прапанаваў паехаць у Вільнюс на яго ўласнай машыне, новенькіх "Жыгулях". Машына ў тыя часы была прадметам раскошы, і мелі гэтую далёка не танную рэч толькі людзі, што раптоўна разбагацелі альбо сабралі грошы шляхам накаплення цягам гадоў. Цмыг належаў да першай катэгорыі грамадзян і ўзбіўся на аўто, працуючы некалькі год па кантракце за мяжой выкладчыкам хіміі ў далёкай афрыканскай краіне Алжыр. Такі рэдкі і выдатны па савецкім часе шанец Цмыг атрымаў дзякуючы неблагому веданню французскай мовы, што, дарэчы, вітаецца і ў цяперашні прагматычны час.

...Мы выехалі ў Вільнюс суботнім ранкам 24 мая а восьмай гадзіне і праз якія дзве гадзіны ўехалі ў горад. Якраз перад нашым з'яўленнем прыбыў мінскі цягнік, што ад'ехаў а шостай з гакам гадзіне.

Ніколі дагэтуль — дый пасля — мне не прыходзілася бачыць такога яскравага відовішча, якое адкрылася з вокнаў нашага "жыгулёнка" на вільнюскай вуліцы Горкага (цяпер гэта праспект Гедыміна). Па ўсёй — як вокам кінуць — прасторы, і ззаду і спераду, шчыльнай урачыстай калонай па тратуары ішлі сотні шчаслівых людзей. Так, людзі былі шчаслівыя, бо былі свабодныя. Упершыню за многія месяцы падпольнай падрыхтоўкі да гэтай падзеі, месяцаў, напоўненых пастаяннымі здзекамі, людзі ў той калоне адчулі сябе вольнымі.

Гэтае невядомае і салодкае слова "свабода"!

І яшчэ яскравая, адметная, нават не дэталь — з'ява: над калонай луналі сотні бел-чырвона-белых сцягоў. Тых сцягоў, якія былі пад наймацнейшай забаронай у Беларусі, за якія хапалі і кідалі ў пастарунак, за якія ў розныя часы нашай гісторыі продкі аддавалі жыццё.

Некалькі соцень нацыянальных беларускіх сцягоў на вуліцах Вільнюса. Віленчукі прыпыняліся і доўга пазіралі на тое незвычайнае шэсце. "Што гэта за людзі? — пыталіся. — Ці не палякі якія? Але ж чаму так шмат?"

"Беларусы мы", — адказвалі крайнія з калоны.

"А сцяг гэты не польскі, хоць і падобны на яго. У нас дзве белыя паласы па баках, а пасярэдзіне чырвоная. А ў палякаў толькі дзве — белая зверху і чырвоная знізу", — тлумачылі прахожым.

Канферэнц-зала была перапоўненая. Сапраўды — 399 дэлегатаў, 350 гасцей і каля 200 акрэдытаваных журналістаў. Квота аргкамітэта дапамагла атрымаць мне неблагое месца недзе ў першых васьмі радах партэра. З'езд адкрыўся беларускім гімнам "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", магутнае гучанне якога ў 11.00 запоўніла залу. Усе ўсталі, і пасля сканчэння песні яшчэ доўга гучала авацыя і воклічы "Жыве Беларусь!".

Адкрыў з'езд Зянон Пазьняк. Яго прамова, як заўсёды, была вельмі змястоўнай, палымянай і заклікала ўсіх да пабудовы новай, некамуністычнай, нацыянальнай Беларусі. Верылася, што гэты час не за гарамі, верылася, што вось-вось мы будзем чуць у Беларусі толькі беларускую мову — як тут, на з'ездзе, што настане дэмакратыя, свабода слова і сходаў.

Наогул выступленні дэлегатаў былі вельмі ўражлівымі, эмацыйнымі і моцнымі верай у нацыянальнае адраджэнне і светлую будучыню Беларусі.

Тыя два дні з'езда назаўсёды застануцца ў маёй памяці. Такое адчуванне, што ты стаў удзельнікам найвялікшай падзеі ў гісторыі, сведкай пераломнага гістарычнага працэсу, які, магчыма (а многія шчыра верылі, што дакладна), паверне шлях Беларусі да новага жыцця.

У праграме Фронту, прынятай у Вільнюсе, сказана: *"БНФ "Адраджэньне" — гэта шырокі грамадскі рух грамадзян, якія выступаюць за дэмакратычныя ідэалы, за моцную незалежную дзяржаву Беларусь, за сацыяльную рынкавую эканоміку, за нацыянальна-культурнае адраджэнне нашага народа..."* Упершыню за шмат гадоў апазіцыйны дэмакратычны і незалежніцкі рух на Беларусі аформіўся арганізацыйна. Упершыню ў постсавецкай Беларусі з'явілася палітычная сіла, якая пераняла традыцыю нацыянальна-вызвольнай і дэмакратычнай барацьбы славутых папярэднікаў — паўстанцаў супраць Расійскай імперыі, адраджэнцаў пачатку нашага стагоддзя, стваральнікаў і абаронцаў БНР. БНФ стаў галоўнай сілай, якая процістаяла таталітарнай савецкай сістэме. БНФ пераадолеў палітычную манаполію камуністаў на Беларусі, вынес галоўны цяжар барацьбы з рэжымам і савецкай імперыяй. БНФ "Адраджэньне" паспрыяў далучэнню мільёнаў суайчыннікаў да палітычнага жыцця і да нацыянальна-культурнага адраджэння. БНФ першы сказаў народу праўду пра злачынную існасць і бесперспектыўнасць камуністычнага рэжыму, пра паняволенасць беларускага народа ў імперыі і пра патрэбу адваявання незалежнасці, пра змрочныя наступствы Чарнобыля.

Праграма БНФ вялікую ўвагу надавала нацыянальнаму беларускаму адраджэнню. Асабліва дэталёва прапрацаваны быў раздзел, прысвечаны культуры і асвеце. Аднак у чыстым выглядзе пытанне аб нацыянальнай ідэі і тым больш беларускім нацыяналізме ў праграме не ставілася. Мабыць, у тыя часы гэта было і не патрэбна, бо БНФ задумваўся як шырокі грамадскі рух і праграму прыстасоўвалі да таго, каб яна была блізкай і зразумелай кожнаму.

І ўсё ж галоўныя атрыбуты нацыянальнай ідэі, такія як суверэнітэт краіны, стварэнне паўнавартаснай дзяржаўнасці, павышэнне міжнароднага аўтарытэту Беларусі, ставіліся галоўнай мэтай БНФ. *"Мы лічым, што нацыя, нацыянальная супольнасць ёсць натуральны вынік сацыяльнасці чалавечай прыроды. Яна валодае вечнымі правамі, рэалізацыя якіх залежыць не ад назапашанага ёю палітычнага, эканамічнага ці ваеннага патэнцыялу, а выключна ад яе ўласнай волі",* — запісана ў праграме.

Ідэолагі БНФ вялікую ўвагу надавалі прававым аспектам беларускага грамадства. Што да правоў нацыі і правоў асобы, то гэтае пытанне развязвалася наступным спосабам: *"Правы нацыі на самараскрыццё роўнавялікія адпаведным правам асобы. Але гэты правы парытэт не ствараe і не можа стварыць невырашальных канфліктаў, калі кіравацца прынцыпам падмянняльнасці, які патрабуе безумоўнай роўнасці грамадзянскіх правоў асобы любой нацыянальнасці і дае магчымасць задавальнення духоўных патрэб нацыянальнай меншасці праз права нацыянальна-культурнай аўтаноміі".*

З часу Устаноўчага з'езда — ад 1989 года — на працягу некалькіх год (фактычна да 1994—1996 гг.) БНФ адчувальна вызначаў дзяржаўную палітыку Беларусі. Найбольш эфектыўна пайшла праца з прыходам у 1991-м годзе шэрагу актывістаў і прыхільнікаў БНФ у склад Вярхоўнага Савета РБ. Трансляцыя па тэлебачанні выступленняў фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце — Зянона Пазьняка, Валерыя Голубева, Лявона Баршчэўскага, Пятра Садоўскага, Сяргея Антончыка, Сяргея Навумчыка, Віктара Ганчара, Генадзя Карпенкі (апошнія два не належалі да БНФ, але падзялялі яго ідэі) і многіх іншых — да гэтага часу ўспамінаюцца не толькі як бліскучыя і разумныя прамовы, але і як час, хоць і не працяглы, сапраўднай дэмакратыі і свабоды слова.

Безумоўна, вялікая заслуга БНФ у тыя нядоўгія, але такія багатыя на падзеі часы ў тым, што ён імкліва набліжаў нас да дэмакратыі і свабоды і перадусім — усё гэта адбывалася пад знакам небывала шырокага нацыянальнага адраджэння, сцвярджэння беларускай культуры і ўмацавання пазіцый беларускай мовы.

## *Зянон Пазьняк*

У свядомасці мільёнаў беларусаў БНФ трывала ўвайшоў побач з постаццю Зянона Пазьняка. Перафразіраваўшы паэта, можна сказаць: "Мы гаворым БНФ — разумеем Зянон Пазьняк, гаворым Зянон Пазьняк — уяўляем БНФ". І гэтая формула засталася да нашага часу, хоць Пазьняк ужо каля 15 год як не жыве ў Беларусі, паколькі быў вымушаны падацца ў эміграцыю.

Бліскучы аратар, харызматычны палітык, палымяны змагар і перадусім да мозгу касцей аддадзены Беларусі яе сын — вось што такое Пазьняк па вялікім рахунку.

Разам з тым, магчыма, гарачая пазьнякоўская любоў да Беларусі, вера ў месіянства БНФ, у нацыянальную моц беларусаў, у хуткае вяртанне грамадзянам Беларусі нацыянальнай свядомасці, і пры гэтым усім без выключэння жыхарам Беларусі, нягледзячы на нацыі і ўзросты, прывялі і не да зусім станоўчых вынікаў.

Прычына паразы Пазьняка і разам з ім паразы ўсяго руху БНФ на прэзідэнцкіх выбарах 1994 года, на маю думку, у вялікай ступені ляжала ў асабістых якасцях лідара фронту, асаблівасцях яго светапогляду і палітычнай адукаванасці. Палымяны патрыёт Бацькаўшчыны, Пазьняк-рамантык настолькі засціў к таму часу Пазьняка-палітыка, што параза была неадваротнай.

Пазьняк-палітык рабіў памылкі адну за адной, хоць у час яго трыумфальнага ўваходжання ў ВС, стварэння фракцыі БНФ, якую ён ачоліў, гэтага яшчэ асабліва не было відаць. Поспехі тады засцілі хібы, але яны таксама былі і сталі праяўляцца яскрава пазней, пасля 1994 года.

Такім чынам, што было дрэнным і непрымальным у праводзімай Пазьняком стратэгіі дзеянняў і яго асабістых паводзінах? Над гэтым даўно варта было б паразважаць. Але, думаецца, боязь, якая сядзіць ў нас, беларусах, спрадвечная, яна засталася ад камуністычных, сталінскіх часоў і плаўна перайшла ў боязь перад новым начальствам і ў першую чаргу перад жорсткім, ледзяным поглядам Пазьняка, які да таго ж хутка набываў статус агульнанацыянальнага лідара і сімвала беларускай нацыі.

Па-першае, і гэта, на маю думку, самая горшая якасць Пазьняка, ён не цярпеў іншадумцаў. І ў гэтым ён паводзіў сябе як самы махровы бальшавік, якіх ён так ненавідзеў. Усе, хто не пагаджаўся з ім, умомант станавіліся ворагамі альбо атрымлівалі кляймо "супрацоўніка спецслужбаў". Апошні ярлык ён раздаваў так заўзята, што часам гэта выглядала зусім недарэчным. Бо тыя катастрафічныя вынікі, якія нечакана для многіх склаліся для будучыні беларускага нацыянальнага адраджэння пасля 1996 года, маюць непасрэднае дачыненне да бездапаможнага кіраўніцтва БНФ у той час і пасля ўсіх тых падзей, якія звязаны з пераходам усёй палітычнай улады да аднаго чалавека.

Не буду пералічваць усе фактары, якія спрыялі фарміраванню адмоўнага іміджу БНФ у масавай свядомасці людзей. Але вытокі гэтага трэба шукаць менавіта ў асобе Пазьняка, ягонай гардыні, нецярпімасці да іншых думак і імкненні навязаць свае канцэпцыі, якія далёка не заўсёды былі дасканалымі...

Асоба Пазьняка з усімі згаданым вышэй асаблівасцямі характару і поглядаў была дамінантай ва ўсіх палітычных кроках БНФ. Менавіта рух і пазней Партыя БНФ сталі вызначаць стратыфікацыю палітычнага спектра Беларусі, фарміраваць правілы новых палітычных адносін.

## *БНФ і палітычныя партыі*

Пачынаючы з 1990 года з крушэннем камуністычнай сістэмы адчыніліся дзверы для фарміравання шматпартыйнай сістэмы ва ўсіх рэспубліках былога СССР. І калі ў іншых рэспубліках гэты працэс імкліва развіваўся і цяпер у кожнай з новастворaных краін існуе багатае фарбамі палітычнае жыццё краіны, то ў Беларусі атрымалася інакш.

Тое, што ў нас цяпер не існуе шматпартыйнай сістэмы, я думаю, добра зразумела кожнаму. Але яе не існавала фактычна і ў 1990-я гады. У тым сэнсе, як гэта разумеецца ў краінах заходняй дэмакратыі, дзе менавіта партыі вызначаюць унутраную і знешнюю палітыку дзяржавы. У нас партыі фармальна існавалі, але з якімі цяжкасцямі яны ўтвараліся, колькі бар'ераў ставілася перад маладымі партыямі, якія раптоўна вылузваліся з палітычнага шалупіння 1990-х!

Дзіды новым партыям ставілі ўсе: і ўлады, і грамадства, і працоўныя калектывы і... БНФ. Зянон Пазьняк лічыў, што ўсе партыі нацыянальна-дэмакратычнага накірунку павінны ўваходзіць у БНФ як структурныя адзінкі ўсяго Фронту. Ідэя гэтая цалкам канструктыўная, зразумелая, але... нерэальная.

Аргументы за жыццё гэтай пазіцыі: у выпадку яе паспяховай рэалізацыі расце моц нацыянальна-дэмакратычных пазіцый у грамадстве, расце і мацнее ўся структура народнага руху, які аб'ядноўвае БНФ, рэалізуецца цэнтралізаваная каардынацыя Фронтам усіх партый і структурных адзінак БНФ, і, нарэшце, сам Зянон Пазьняк робіцца як бы галоўным старшынёй усіх гэтых партый і структур, што ўваходзяць у БНФ.

Нерэальнасць такой сітуацыі відавочная. Амаль такі падыход быў у зусім нядаўняй савецкай сістэме. Той жа таталітарны, недэмакратычны шлях, які паўтарае БНФ следам за сваімі папярэднікамі — камуністамі. Гэта, дарэчы, і не дзіўна, бо вялікую колькасць сяброў БНФ складалі былыя камуністы. Але не для таго мы скідвалі "камуністычнае ярмо" і аддавалі свае сэрцы, думкі, у рэшце рэшт — жыцці новым дэмакратычным ідэалам, каб зноў спяваць пад чужую дудку — і не важна, што гэтая песня ўжо будзе гучаць на мілай сэрцу беларускай мове і будзе пра дэмакратыю.

У чэрвені 1990 года адбылася Устаноўчая канферэнцыя першай беларускай партыі ў Беларусі пасля замацавання ў Канстытуцыі шматпартыйнай сістэмы і адмены кіруючай ролі камуністычнай партыі ў жыцці рэспублікі. Гэтай першай партыяй была Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі, у якой я стаў адным з трох сустаршыняў (старшынёй). Мне і маім паплечнікам хацелася ўтварыць такую палітычную арганізацыю, у якой на першы план будуць высунуты ідэалы нацыянальнага адраджэння, пытанні незалежнасці Беларусі, роднай мовы, гісторыі і культуры беларусаў будуць на першым плане, і пры гэтым Беларусь будзе паступова станавіцца дэмакратычнай еўрапейскай дзяржавай.

Услед за намі на працягу 1990—1991 гадоў сталі запаўняцца іншыя нішы — сацыял-дэмакраты (партыя БСДГ на чале з Міхасём Ткачовым), ліберальнай дэмакратыі (АДП — А.Дабравольскі), хрысціянскай дэмакратыі (БХДЗ — Пятро Сілка), была створана Сялянская партыя на чале з Яўгенам Лугіным.

Аднак ні адна з гэтых партый не кінулася ў абдымкі БНФ, як гэта задумваў Пазьняк. Нават сябра Зянона Міхась Ткачоў, які фактычна быў "камандзіраваны" Фронтам узначаліць Беларускую сацыял-дэмакратычную Грамаду, не падтрымаў аб'яднаўчых памкненняў Пазьняка. Больш таго, менавіта М.Ткачоў стаў ініцыятарам іншага працэсу — стварэння блоку партый. Ён прапанаваў стварыць саюз альбо блок з партый дэмакратычнага накірунку пад назвай "Новая Беларусь", у які ўсе партыі ўваходзяць як раўнапраўныя партнёры. Ідэя гэтая мне спадабалася, і ў сустрэчы з Міхасём Ткачовым мы ўзгаднілі нашы пазіцыі, пачалі працу над новай структурай. Была восень—зіма 1991—1992 гадоў.

Зянон Пазьняк вельмі хваравіта ўспрыняў гэтую навіну. Ён выступіў у друку, дзе ў самых рэзкіх словах выказаўся супраць свайго былога сябра Ткачова. Пачаўся моцны прэсінг на ўсе палітычныя партыі, якія падтрымалі ідэю "Новай Беларусі". Тут адыграў ролю яшчэ і той факт, што амаль усе лідары і сябры маладых партый былі і сябрамі БНФ.

Гэты крок Пазьняка хутка даў вынікі — блок "Новая Беларусь" распаўся. НДПБ выйшла з яго, а тыя сябры, што яшчэ стаялі на раздарожжы, таксама не падтрымалі ініцыятыву. Толькі старшыня Сялянскай партыі Яўген Лугін праявіў ваенны характар (ён быў падпалкоўнік у адстаўцы) і не паддаўся на атаку калег з БНФ. Не паддаваўся і я, але, будучы толькі адным са старшыняў, цалкам уздзейнічаць на палітычны курс партыі, зразумела, не мог. У выніку ў НДПБ узніклі ўнутраныя супярэчнасці, пачаліся ўзаемныя абвінавачванні, сваркі, якія к канцу 1992 года прывялі да расколу партыі. І ў 1993—1994 гадах існавалі дзве незалежныя арганізаваныя структуры пад назвай НДПБ, якія добрую частку сваёй актыўнай дзейнасці прысвячалі беганню ў Мінюст для высвятлення пытання — "хто з нас сапраўдная НДПБ?". Як вядома, наш шлях пошукаў праўды ў Мінюсце паўтарылі пазней прадстаўнікі і іншых партый, і самога БНФ. Каб развязаць тупіковую сітуацыю, мы пайшлі тады на рашучы крок: спачатку быў створаны аргкамітэт, а потым прайшоў (сакавік 1994 г.) і ўстаноўчы з'езд новай партыі — Беларускай нацыянальнай партыі, дзе я быў абраны старшынёй.

Услед за НДПБ — па той жа прычыне нязгоды з курсам Пазьняка на ўзурпацыю ўлады — раскалолася Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць (БХДЗ). У выніку ўтварылася незалежная ад БНФ БХДЗ (П.Сілка) і "фронтаўская" Беларуская хрысціянска-дэмакратычная партыя (БХДП), якой кіравалі Юрый Хадыка, Людміла Пеціна, а старшынёй быў абраны прафесар Мікалай Крукоўскі.

Усе гэтыя падзеі адбываліся ў першай палове 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Так і не дабіўшыся аб'яднання партый у сваіх шэрагах, БНФ тым не менш колькасна і якасна рос. І да новых выбараў у Вярхоўны Савет 1995 года фракцыя БНФ у беларускім парламенце (на працягу добрых пяці гадоў!) была самай яркай, адукаванай і ўплывовай структурай Вярхоўнага Савета. З БНФ ды і іншымі партыямі ў тыя часы лічыліся, да іх меркаванняў прыслухоўваліся на ўсіх дзяржаўных і грамадскіх узроўнях. І самае галоўнае — палітыка беларусізацыі, ініцыяваная БНФ, пачала даваць адчувальны плён.

Каб не быць галаслоўным, прывяду прыклад з уласнага досведу. У тыя часы я працаваў выкладчыкам інфарматыкі ў тэхналагічным інстытуце (БДТІ) (з 1993 г. — універсітэце). З 1991 года выкладаў свой прадмет па-беларуску. І магу засведчыць, што мноства асістэнтаў, дацэнтаў і прафесароў перайшлі ў тыя гады на беларускамоўнае выкладанне самых розных тэхнічных і гуманітарных дысцыплін. Пры нашым інстытуце існаваў нават грамадскі ўніверсітэт беларускай мовы, гісторыі і культуры, рэктарам якога быў аддадзены беларускай справе чалавек — доктар тэхнічных навук Аляксей Андрэевіч Саламонаў.

Усё гэта сышло ў нябыт. Няма ўжо таго грамадскага ўніверсітэта, амаль знікла выкладанне на беларускай мове і ў тэхналагічным, і ў іншых інстытутах і ўніверсітэтах. А мэта беларускіх патрыётаў была ўжо амаль дасягнута, прычым на дзяржаўным узроўні. Адкат быў імклівы, і ўзровень беларусізацыі хутка пераўзышоў па мінусе той вельмі нізкі ўзровень ужывання беларускай мовы, што быў "дасягнуты" к канцу 1980-х гадоў (ці пачатку перабудовы).

Але тады, у 1990-х гадах, усё выглядала інакш. БНФ уздзейнічаў фактычна на ўсю дзяржаўную палітыку ў сферы культуры і асветы. І не толькі ў гэтай сферы. Цяпер амаль забыты праект Балта-Чарнаморскага калектара, які гарантаваў энергетычную незалежнасць Беларусі ад Расіі. Ён абмяркоўваўся на самых высокіх узроўнях, праводзіліся навуковыя і практычныя канферэнцыі на гэтую тэму, іншыя мерапрыемствы, аднак рэальнасць аказалася зусім іншай.

## *Першыя страты БНФ*

Разам з ростам папулярнасці БНФ і замацавання яго рэальных поспехаў яшчэ ў той "зорны час" БНФ пачаліся і яго страты. Яшчэ ў 1992 годзе перастала выходзіць газета "Навіны БНФ" — першая фронтаўская газета, створаная яшчэ ў 1988 годзе як выданне арганізацыйнага камітэта. І прычына была да банальнасці простая. Першы і нязменны рэдактар "Навін" Алесь Суша адмовіўся пісаць пад дыктоўку Зянона Пазьняка, не захацеў ператвараць газету ў чыста партыйнае выданне. За што і быў звольнены. Фраза пра тое, што "на ўсякае месца заўсёды знойдзецца чалавек і пуставаць месца не будзе", у дадзеным выпадку дала асечку. Спробы Ю.Хадыкі і яшчэ некага ачоліць газету не далі вынікаў — яна знікла...

Непаразуменні паміж актывістамі БНФ і Зянонам Пазьняком рэзка ўзмацніліся пасля паразы БНФ на выбарах у Вярхоўны Савет у 1995 годзе. Над Фронтам навісла пагроза расколу. Новыя рэаліі прымусілі многіх з нас прыхаваць рамантыку беларусізацыі, культурнага і нацыянальнага адраджэння, а таксама дэмакратыі да лепшых часоў. Час ідэй знікаў, саступаючы месца жорсткаму прагматызму. У палітыку "ламіліся" новыя людзі, а хуткая эвалюцыя прэзідэнцкай формы праўлення да звычайнай дыктатуры канчаткова падзяліла грамадства на дзве часткі: адна — гэта прэзідэнт, людзі прэзідэнта і яго электарат, другая — усе тыя, хто не захацеў увайсці ў прэзідэнцкую капэлу і застаўся спяваць у самадзейных калектывах пад назвай *палітычныя партыі апазіцыйнага накірунку,* а таксама ў грамадскіх арганізацыях з таямнічай назвай NGO.

## *БНФ пасля 1996 года*

Працэс фарміравання палітычна структураванага грамадства скончыўся ў 1996 годзе. "Кішэнныя" партыі, як кпіў з нашай НДПБ Зянон Пазьняк яшчэ ў 1991 годзе, сапраўды так і засталіся кішэннымі. Але, як нечакана аказалася, не нашмат ад іх стаў розніцца і БНФ. Канешне, БНФ уяўляў к таму часу добра структураваную арганізацыю, якая ахоплівала практычна ўсе раёны Беларусі. Але, з другога боку, ён перастаў мець такі ўплыў на палітычныя працэсы, які быў характэрны для папярэдняга перыяду, звязанага з удзелам бээнэфаўцаў у рабоце Вярхоўнага Савета 12-га скліканя.

Яшчэ адным важкім момантам была спыненне беларусізацыі і пачатак новай фазы русіфікацыі, якая пачалася пасля рэферэндумаў, ініцыяваных А.Р.Лукашэнкам у 1995—1996 гадах. І ў гэтых новых рэаліях БНФ аказаўся абсалютна незапатрабаваным. Тыя высокакласныя спецыялісты, навукоўцы, мастацкія і культурныя дзеячы, якімі так ганарыўся Фронт, раптоўна аказаліся незапатрабаванымі і непажаданымі ў Беларусі, што пачала адбудоўвацца пасля 1996 года.

Самымі парадаксальнымі ў гэтай сумнай рэчаіснасці і для БНФ, і для ўсёй ужо настроенай на дэмакратыю часткі Беларусі, аказаліся паводзіны лідараў БНФ, і ў першую чаргу Зянона Пазьняка. Замест таго каб зрабіць патрэбныя высновы, прааналізаваць прычыны паразы і распачаць сур'ёзную работу над выпраўленнем памылак, што б вы думалі робіць Пазьняк? Ён арганізуе маштабную акцыю па... прыёме грамадзян Беларусі ў неіснуючую краіну Беларуская Народная Рэспубліка (БНР) з выдачай грамадзянскіх пашпартоў! Далібог, калі б гэта была нейкая піянерская гульня накшталт "Зарніцы", то нічога, няхай. Але ж дарослыя дзядзькі і цёткі, дацэнты і прафесары запаўнялі бланкі ды анкеты і потым з замілаваннем прыцiскалі да сэрца "пашпарт грамадзяніна БНР", у той час як у краіне ўпэўнена набірала сілу ўлада аднаго чалавека і не за гарамі былі арышты і пасадкі актывістаў БНФ. Дарэчы, менавіта такое стаўленне да гэтай ідэі Пазьняка было ў мяне і ў той час, калі разгортвалася гэтая "акцыя". Тады я быў супакоены толькі тым, што не ўваходжу ў аніякія БНФ-скія кіраўнічыя органы, шараговы сябра, а вось як старшыня Беларускай нацыянальнай партыі магу і актыўна выказаць свае погляды. Што, дарэчы, я і зрабіў у артыкуле "Навошта БНФ загубіў нацыянальную ідэю?", надрукаваным 1.04.1996 г. у газеце "Здравый смысл".

Праглядваючы змест той нататкі, проста здзіўляюся, наколькі ўсё там дакладна выкладзена. Мае прагнозы цалкам спраўдзіліся, хаця я тады яшчэ не ведаў, што і БНФ падзеліцца, і З.Пазьняк выедзе за мяжу. З адным я, праўда, не пагаджуся цяпер — з загалоўкам артыкула. Бо БНФ нацыянальную ідэю не загубіў, не ўсё рабілася так, як трэба, але ж у галоўным Фронт заставаўся верным сваім ідэалам. Хоць, калі перанесціся праз гады ў нашыя часы, дык у вялікай ступені тая крытыка для цяперашняга Фронту будзе не лішняй.

А тады, ужо з першых гадоў праўлення Аляксандра Рыгоравіча, пачаўся актыўны наступ на БНФ і іншыя партыі дэмакратычнага кшталту. Не памятаю, з якога моманту, але цяпер усе гэтыя арганізацыі завуцца апазіцыяй.

Пераломны час пераходу ад парламенцкай формы кіравання краінай да прэзідэнцкай завяршыўся не толькі абраннем А.Р.Лукашэнкі на пост прэзідэнта, але і змяненнем Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, што дазволіла прэзідэнту атрымаць неабмежаваную ўладу і сканцэнтраваць у сваіх руках усе дзяржаўныя, заканадаўчыя і судовыя органы. У знак пратэсту людзі выходзілі на вуліцы гарадоў. Самай масавай акцыяй БНФ стаў "Чарнобыльскі Шлях", які праходзіў 26 красавіка 1996 года на вуліцах Мінска і сабраў больш за 50.000 чалавек. Пачаліся рэпрэсіі. А лідар БНФ Зянон Пазьняк быў вымушаны з'ехаць за мяжу.

Фронт застаўся "без галавы". Наступіў працяглы і цяжкі крызіс БНФ, які завяршыўся ягоным расколам на VI з'ездзе БНФ у верасні 1999 года. Узніклі дзве незалежныя палітычныя партыі, кожная з якіх (як некалі ў гісторыі з НДПБ) лічыла сябе сапраўдным Беларускім Народным Фронтам. Ні адна з іх упарта не хацела здаваць брэнд "БНФ" апаненту, а двум аднолькавым БНФам Мінюст не дазваляў існаваць. У выніку адна партыя, якую ўзначаліў Вінцук Вячорка, адстаяла юрыдычны статус і адпаведна назву БНФ, а другая, якая засталася вернай свайму куміру Зянону Пазьняку, вымушана была змяніць назву і стала Кансерватыўна-Хрысціянскай партыяй — БНФ.

З тых часоў і існуюць гэтыя не зусім сяброўскія партыі. Першая партыя на працягу свайго існавання працягвала палітычную барацьбу, згодна з Праграмай і Статутам БНФ, прынятымі яшчэ на з'ездзе ў 1993 годзе. Яна працягвала і працягвае курс "старога" Фронту на нацыянальнае адраджэнне. Другая частка, КХП—БНФ на чале з нязменным старшынёй Зянонам Пазьняком, які кіруе партыяй "завочна", з-за мяжы, і з кіраўніком партыі ў Беларусі — намеснікам старшыні Юрасём Беленькім стала паступова дастаткова маргінальнай структурай, якая амаль не ўдзельнічае ў палітычных працэсах. Канчатковы выхад КХП—БНФ з палітычнага жыцця адбыўся пасля скандалу з паслом Георгам Вікам, якога пазьнякоўцы абвінавацілі ў службе на германскую разведку і выйшлі са складу Кансультацыйнага савета. Яны сталі ў пазіцыю перманентнага байкоту выбараў і наогул няўдзелу ў палітычным жыцці Беларусі, абмежавалі сваю дзейнасць некаторымі культурнымі мерапрыемствамі, сярод якіх галоўнымі былі паходы ў Курапаты. А калі партыя заканчвае сваю палітычную дзейнасць, то яна перастае быць партыяй, і ў цяперашні час КХП—БНФ уяўляе сабой фактычна гурток нацыянальна свядомых людзей, мэтай якога з'яўляецца крытыка "акупацыйнага расійскага рэжыму" і штогадовае ўшанаванне памяці ахвяр сталінскага рэжыму ва ўрочышчах Курапаты, Лошыца і правядзенне падобных акцый ў іншых гарадах...

## *БНФ сёння*

Прыход да кіравання Партыяй БНФ "маладых ваўкоў" на чале з А.Януковічам канчаткова змяніў ранейшы імідж Фронту як лідара нацыянальна-дэмакратычнага руху на Беларусі, як ядра і калыскі нацыяльных сіл. БНФ застаўся без сваіх стваральнікаў. Тыя, хто стаяў ля вытокаў зараджэння Фронту, тыя, хто прысвяціў сваё жыццё БНФ, апынуліся па-за шэрагамі свайго тварэння. Гэта былыя старшыні БНФ Вінцук Вячорка і Лявон Баршчэўскі, нязменны сакратар Управы БНФ нядаўна памерлы Віктар Івашкевіч, былы шматгадовы намеснік старшыні БНФ прафесар Юрый Хадыка, вядомы гісторык і дэпутат Вярхоўнага Савета Валянцін Голубеў і шмат іншых.

У гэтых выніках дзеянняў маладога пакалення адлюстраваліся праявы "беларускай хваробы", сутнасць якой у адсутнасці павагі да старэйшага пакалення, непамерная гардыня і ў канчатковым выніку — няздольнасць да глабальнага, дзяржаўнага мыслення, сутнасць якога ў адным: Беларусь — перадусім!

У заключэнне хочацца ўсё ж вылучыць тыя галоўныя высновы, што засталіся пасля 25-гадовага існавання БНФ у нашай краіне.

1.БНФ быў галоўным каталізатарам і чыннікам усіх падзей, якія распачаліся пасля гарбачоўскай перабудовы ў Беларусі. БНФ быў магільшчыкам манаполіі камуністаў на неабмежаваную ўладу. Дзякуючы БНФ быў адкрыты пачатак новым палітычным працэсам у Беларусі, якія прывялі да стварэння новай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь.

2.Менавіта БНФ павярнуў беларускага грамадзяніна тварам да яго іншай, сапраўднай іпастасі, дадзенай Богам, — да асэнсавання таго, што ён не толькі савецкі чалавек, а часцінка нацыі, імя якой — беларусы. І хаця працэс станаўлення беларускай нацыі быў на няпэўны час прыпынены, тыя якасныя зрухі беларускага адраджэння 90-х гадоў XX ст. з'яўляюцца ўжо набыткам вечнасці і фундаментам жыцця новых пакаленняў.

3. Намаганнямі БНФ і роднасных партый, а таксама дзякуючы працы людзей, што ўзраслі на глебе ідэй БНФ, — палітычных дзеячаў, дзеячаў навукі і культуры — за мінулы час было вельмі шмат зроблена для канструявання беларускай нацыянальнай ідэі для сучаснага этапу развіцця нашай нацыі. А гэта адкрывае нашай краіне шлях у будучыню як нацыянальнай дзяржаве, як раўнапраўнай краіны ў сусветным кветніку народаў.

**Анатоль АСТАПЕНКА,**
**сустаршыня Нацыянальна-дэмакратычнай партыі (НДПБ) (1990—1994 гг.),**
**старшыня Беларускай нацыянальнай партыі (БНП) (1994—1999 гг.),**
**намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады (БСДГ) (з 1998 г.),**
**а таксама сябра БНФ.**

